# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№11 (210)
лістапад 2019

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### "Бацькаўшчына" накіравала ў МЗС прапановы ў дзяржаўную праграму "Беларусы ў свеце"

Да працы над гэтым дакументам Згуртаванне прыступіла на просьбу МЗС у часе сёлетняга пасяджэння Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа.

Старонка 2

### Годны фінал 150-гадовай трагедыі. Як у Вільні развіталіся з Каліноўскім і яго паплечнікамі

Развітанне з Кастусём Каліноўскім і яшчэ 19 паўстанцамі, арганізаванае ўладамі Літвы, атрымала найвышэйшыя ацэнкі тысяч прысутных на ўрачыстасці.

Старонка 4

### Збіраюць грошы на "Крыж мужнасці" Булак-Балаховіча для Гістарычнага музея

Супрацоўнікі Нацыянальнага гістарычнага музея праз інтэрнэт-платформу Molamola збіраюць грошы набыць тры артэфакты, наўпрост звязаныя з дзейнасцю генерала Станіслава Булак-Балаховіча.

Старонка 3



# Мікалай Пачкаеў: ТОЛЬКІ ДАВАЙЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, БЕЗ "РОССОТРУДНИЧЕСТВА"

Калі сядзібу Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" з ганаровай місіяй наведаў сябра Рады БНР Мікалай Пачкаеў – каб уручыць кіраўніцтву "Бацькаўшчыны Медалі да стагоддзя БНР, – то мы, памятаючы, што спадар Мікалай узначальвае Згуртаванне беларусаў Вялікабрытані (ЗБВБ), затрымалі яго, каб распытаць пра тое, чым сёння жыве адна з найбуйнейшых і найстарэйшых арганізацый беларускага замежжа.

**– Кажаце, што сядзібу нашу знайшлі не адразу, давялося паблукаць. Але ж Мінск ваш родны горад. Рэдка тут бываеце, відаць?**

– Бываю і сапраўды не вельмі часта, пераважна з нейкіх сямейных ці грамадскіх "аказій", у вольны час. Але быў, напрыклад, на ўсіх З'ездах беларусаў свету апошніх гадоў.

**– А Згуртаваннем Беларусаў Вялікай Брытаніі кіруеце даўно?**

– Некалькі гадоў ужо. Калісьці кіраўніцтва арганізацыі прыняло рашэнне шукаць пераемнікаў сярод тых, хто прыехаў пасля распаду Савецкага Саюза, і перадаваць ім справы. Я быў намеснікам старшыні, пасля – абраны старшынём. Старшыня пераабіраецца штогод.

**– Ці адбыліся за час вашага кіравання нейкія змены ў жыцці арганізацыі?**

– Змены, якія мяне турбуюць найбольш, – гэта адыход нашых старых сяброў-заснавальнікаў. У пазамінулым годзе мы ўпершыню адзначалі 25 сакавіка без адзінага прадстаўніка старой эміграцыі, уражанне гэта рабіла вельмі сумнае, хаця натуральна, што такая сітуацыя непазбежная. І ўсё ж калі старыя сябры былі сярод нас – гэта было адно, а тут нам давялося напоўніцу адчуць, што мы далей ужо самі. Але ў мінулым годзе з намі на сходзе зноў была спадарыня Лёля Міхалюк, мая папярэдніца на гэтай пасадзе, якая прыбыла ў Вялікабрытанію адразу пасля вайны. Зараз Згуртаванне працягвае сваю дзейнасць у традыцыйным рэчышчы, як арганізацыя і старой, і новай эміграцыі. Адным словам, прычынай пэўных зменаў можа стаць адыход старой эміграцыі.

**– І якіх жа? Што можа памянцца ў першую чаргу?**

– Вось адзін з прыкладаў. Статут ЗБВБ быў прыняты ў 1948 годзе і з невялікімі зменамі дзейнічае да нашага часу. І літаральна пару гадоў таму сярод іншых зменаў мы ўпершыню зацвердзілі вернасць ідэалам 25 сакавіка, бела-чырвона-беламу сцягу і "Пагоні". Для старой эміграцыі гэтыя тэзы былі як нешта само сабой зразумелае і безальтэрнатыўнае, пытанняў на гэты конт ніколі не паўставала. Але цяпер з Беларусі прыязджаюць людзі, якія нарадзіліся ці ўвайшлі ў свядомае жыццё на працягу апошніх дваццаці пяці гадоў. Яны не заспелі савецкага часу, Перабудовы, яны маюць ужо трохі іншую палітычную свядомасць і адрознае ад нашага ўяўленне пра свет: тое, чаго не можна прачытаць ці пабачыць у сацсетках, для іх часта таямніца. Дзеля іх мы таксама не сталі разбудоўваць наш сайт, а ставім нашы навіны ў Фэйсбук, тады як сайт выкарыстоўваем толькі для сувязі і аўтаматычнага дублявання калонкі навінаў.

**– Як жа ЗБВБ удаецца забаўляюць беларусаў, для якіх пытанне нацыянальнай сімволікі і ідэалаў БНР патэнцыйна неадназначнае?**

– Ну, чытачы сайту ЗБВБ звычайна не маюць патрэбы лікбезу ў беларускіх нацыянальных справах…

Працяг на старонцы 6.

**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

# "БАЦЬКАЎШЧЫНА" НАКІРАВАЛА Ў МЗС ПРАПАНОВЫ Ў ДЗЯРЖАЎНУЮ ПРАГРАМУ "БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ" (2021–2025 ГГ.)

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" накіравала ў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь прапановы ў дзяржаўную праграму "Беларусы ў свеце" (2021–2025 гг.). Да працы над гэтым дакументам Згуртаванне прыступіла на просьбу МЗС у часе сёлетняга пасяджэння Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа.

У аснову дакумента пакладзеныя прапановы дыяспары, агучаныя на з'ездах беларусаў свету, а таксама аналіз паспяховага досведу іншых унітарных краінаў у галіне двухбаковага супрацоўніцтва са сваімі дыяспарамі.

Прапановы складаюцца з немалой колькасці пазіцый і ахінаюць шырокі спектр прыярытэтных кірункаў супрацоўніцтва з дыяспарай: ад спосабаў вызначэння патэнцыялу беларусаў замежжа і стратэгій пабудовы даверу паміж беларусамі замежжа і беларускай дзяржавай, да стварэння ўстойлівых механізмаў прыцягнення дыяспары да развіцця Рэспублікі Беларусь. Рэалізацыя палажэнняў, выкладзеных у прапановах, прадугледжвае стварэнне профільных грамадскіх і дзяржаўных структур, аказанне на сталай аснове арганізацыйнай і юрыдычнай дапамогі ўсім зацікаўленым у супрацоўніцтве з кожнага боку. Адны з самых важных пунктаў прапановаў прысвечаныя стварэнню механізмаў фінансавага ўдзелу беларусаў замежжа ў дзяржаўных і недзяржаўных праектах беларускіх арганізацый, а таксама паглыбленню інтэлектуальнага супрацоўніцтва са спецыялістамі – прадстаўнікамі дыяспары.

Асаблівая ўвага ў дакуменце надаецца захадам, скіраваным на захаванне і паглыбленне нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў замежжа.

Разам з гэтым відавочна, што без наўпростых заўваг тых, хто непасрэдна зацікаўлены ў развіцці стасункаў Беларусі і беларускай дыяспары, гэтыя прапановы не могуць прэтэндаваць на поўны ахоп усіх наяўных праблемаў. Таму **мы заклікаем прадстаўнікоў беларускага замежжа ўважліва пазнаёміцца з тэкстам падрыхтаванага намі дакумента і скіроўваць свае заўвагі на адрас zbsb.minsk@gmail.com**

Прачытаць і спампаваць тэкст дакумента можна на сайце zbsb.org

Дакумент грунтуецца на Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Законе "Аб беларусах замежжа", Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага развіцця краіны на перыяд да 2035 года, Канцэпцыі нацыянальнай бяспекі Беларусі, а таксама міжнародных дамовах і пагадненнях нашай краіны.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

**навіны**

# БЕЛАРУСЬ У ШВЕЦЫІ БОЛЬШ НЕ БУДЗЕ "БЕЛАЙ РАСІЯЙ"

Ад гэтага часу ўрад Швецыі ў афіцыйных зносінах будзе называць Беларусь па-шведску Belarus замест Vitryssland (Белая Расія). Пра гэта паведаміла міністарка замежных спраў Швецыі Ан Ліндэ ў сваім артыкуле ў выданні Dagens Nyheter.

"Гэта прызнанне беларускай грамадзянскай супольнасці і людзей, якія даўно хацелі падкрэсліць нацыянальную ідэнтычнасць і суверэнітэт сваёй краіны", – піша Ліндэ.

Такім чынам Міністэрства замежных спраў адмаўляецца ад тэрміну, які можа можа выклікаць асацыяцыі з Расіяй (Ryssland), бо слова Русь (Rus) не адносіцца да Расіі, піша Ліндэ. Русь – гэта назва земляў ва Усходняй Еўропе, якія ў сярэднявеччы былі населеныя ўсходнеславянскімі народамі.

Паведамленне супадае ў часе з візітам Ан Ліндэ ў Мінск разам з яе фінскім калегам Пэка Хавіста. У МЗС Швецыі заяўляюць, што тое самае "выпраўленне" – з "Белай Русі" на "Беларусь" – раней адбылося сярод іншага ў англійскай і французскай мовах.

"Я бяру з сабой гэтую навіну, калі сёння з афіцыйным візітам наведваю Мінск. Я еду разам з міністрам замежных спраў Фінляндыі Пэка Хавіста як прадстаўніком старшынёўства ў ЕС, і буду сустракацца з прадстаўнікамі ўраду Беларусі, а таксама з грамадзянскай супольнасцю, апазіцыяй і моладдзю", – паведаміла шведская міністарка.

Ан Ліндэ адзначыла, што Беларусь – гэта краіна, дзе, за выключэннем Швецыі і Фінляндыі, рэкордная колькасць людзей на душу насельніцтва вывучаюць шведскую мову.

У рамках візіту Ан Ліндэ з сваім фінскім калегам будуць весці дыялог у важных для Швецыі і ЕС пытаннях. Паводле яе, калі дыялог грунтуецца на перакананні, што кантакты заўсёды лепшыя за ізаляцыю – нават кантакты з краінамі, спосабы кіравання і палітыка якіх заснаваныя на каштоўнасцях, якія Швецыя і ЕС не падзяляюць цалкам.

"У мяне ёсць тры важныя мэсыджы, якія я перадам усім, каго сустрэну ў Беларусі", – піша Ліндэ.

Па-першае, яна заявіла: "Мы не ідзем на кампрамісы ў сваіх патрабаваннях што да правоў чалавека, дэмакратыі і свабоды слова. Беларусь – апошняя краіна ў Еўропе, якая ўжывае смяротнае пакаранне. Працягваюцца пераслед і затрыманні апазіцыянераў, што для нас непрымальна... Паводле міжнародных назіральнікаў, падчас выбараў у мінулыя выходныя былі выяўленыя сур'ёзныя дэмакратычныя недахопы".



Чальцы беларускай дыяспары на пікеце ў Стакгольме патрабуюць ад шведскага МЗС перастаць называць іхных суайчыньнікаў «беларасійцамі». Кастрычнік 2019.

Паводле міністаркі, Швецыя і ЕС будуць прынцыпова патрабаваць адмены смяротнага пакарання і пратэставаць супраць парушэнняў правоў чалавека, і будуць працягваць падтрымліваць дэмакратычныя сілы ў Беларусі.

Па-другое, Ан Ліндэ заявіла пра намер Швецыі павялічыць супрацоўніцтва ў тых галінах, дзе ў Швецыі і Беларусі ёсць агульныя інтарэсы. Сярод іншага яна згадала барацьбу з гандлем людзьмі і прастытуцыяй, супрацоўніцтва ў справе клімату і навакольнага асяроддзя ў агульнай для абедзвюх краін зоне.

Па-трэцяе, шведская міністарка зазначыла: "Мы выступаем за еўрапейскі рэжым бяспекі і права дзяржаў на выбар незалежнай палітыкі бяспекі. З моманту незалежнасці ў 1991 годзе Беларусь шукала ўласную ідэнтычнасць у сучаснай Еўропе, а таксама ў знешняй палітыцы. Размяшчэнне краіны паміж Расіяй і ЕС стварае асаблівыя ўмовы, якія яна імкнулася выкарыстаць у якасці будаўніка мастоў".

Ан Ліндэ адзначыла канструктыўную ролю Беларусі ў правядзенні Мінскага працэсу і трохбаковай кантактнай групы, накіраванай на дыпламатычнае вырашэнне канфлікту на ўсходзе Украіны.

"Ізаляцыя не прывядзе да большай дэмакратыі, правоў чалавека і ўстойлівага развіцця. Змена назвы Беларусі і мой візіт у Мінск – гэта відавочны сігнал, што Швецыя хоча больш цеснага дыялогу з Беларуссю: з урадам краіны, апазіцыяй і з беларускім народам. Каб умацаваць нашу агульную бяспеку і абараніць асноўныя правы і свабоды чалавека", – піша міністарка замежных спраў Швецыі Ан Ліндэ ў артыкуле ў выданні Dagens Nyheter.

**svaboda.org**

навіны "Будзьма беларусамі!"




# "БІЛ І БОЛА" ВАНДРУЮЦЬ ПА КРАІНЕ

Гісторыя Гунілы Бэргстрэм пра хлопчыка Біла, у якога малодшая сястра асаблівая, з'явілася на беларускай мове ў 2017 годзе.

А ў 2019 ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" разам з грамадскай культурніцкай кампаніяй "Будзьма беларусамі!" стварылі аўдыёкнігу "Суперкніга пра Біла з Болаю". Актыўны ўдзел у стварэнні кнігі і запісе дыскаў узялі Надзя Кандрусевіч, Аня Хітрык, Павал Харланчук, Андрэй Хадановіч і Алеся Башарымава.

І вось пачалася вялікая вандроўка незвычайна-звычайнай вясёла-сумнай гісторыі па краіне! Сябры "Будзьма беларусамі!" і "Саюза беларускіх пісьменнікаў" распавядаюць гэтую гісторыю маленькім і дарослым, паказваючы, як важна разумець і прымаць "непадобнасць" асаблівых людзей.

Акторкі тэатрыка "Лямцавая батлейка" Вераніка Фаміна і Наталля Леванава ладзяць тэатралізаваныя чытанні, "рыцарская" каманда Юрыя Усціновіча на прыкладзе ўласнай жыццёвай гісторыі паказвае, што быць асаблівым цяжка, але не варта ўпадаць у роспач.

Шчырыя хваляванні, спачуванне, усмешкі і разуменне іншага, непадобнага да цябе – вось гама эмоцый, што выклікаюць такія цёплыя душэўныя сустрэчы.

**budzma.by**

навіны

# 55-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ ХОРУ "ВАСІЛЁЧКІ"

У Пачатковай школе №3 з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім 55-годдзе мастацкай дзейнасці святкаваў хор "Васілёчкі". Адзін з самых вядомых калектываў беларускага аматарскага мастацкага руху на Падляшшы быў заснаваны ў 1964 годзе, але назву атрымаў толькі ў 1973 годзе.

"Была такая песня "Васілёчкі," – успамінае былы шматгадовы кіраўнік "Васілёчкаў" Сяргей Лукашук:

– Я знайшоў песню "Васілёчкі" беларускага кампазітара Міколы Куліковіча, які жыў у ЗША. Вельмі спадабалася яна мне. Я яе апрацаваў для змешанага хору. І такім чынам хор узяў назву ад назвы гэтай песні.

Бельскі хор "Васілёчкі" цягам 55 гадоў даў больш за 1200 канцэртаў у Польшчы ды па-за межамі краіны.

**Давід Гайко, " Беларускае Радыё Рацыя"**




# ЗБІРАЮЦЬ ГРОШЫ НА НАБЫЦЦЁ "КРЫЖА МУЖНАСЦІ" БУЛАК-БАЛАХОВІЧА ДЛЯ ГІСТАРЫЧНАГА МУЗЕЯ

Супрацоўнікі Нацыянальнага гістарычнага музея праз інтэрнэт-платформу Molamola збіраюць грошы набыць тры артэфакты, наўпрост звязаныя з дзейнасцю генерала Станіслава Булак-Балаховіча.

Гэта "Крыж мужнасці", які ўручалі афіцэрам і жаўнерам вайсковых фармаванняў Булак-Балаховіча, пасведчанне кавалера гэтай узнагароды і ліст памочніка генерала Яна Хмялеўскага, датаваны 1939 годам. Артэфакты належаць прыватнаму калекцыянеру і прапанаваныя музею за 3200 рублёў.

"З пэўных прычын Нацыянальны гістарычны музей не ў стане вылучыць бюджэтныя сродкі на набыццё. У сувязі з гэтым мы звяртаемся да ўсіх тых, каму неабыякавая гістарычная спадчына Беларусі, з прапановай фінансава падтрымаць акцыю збору сродкаў для гэтых рэчаў", – сказана ў звароце.



Супрацоўнікі Нацыянальнага гістарычнага музея прызнаюць неадназначнасць асобы генерала Станіслава Булак-Балаховіча, але адзначаюць яе важнасць у гісторыі змагання за незалежнасць краіны і заўважаюць, што гэтая гісторыя недастаткова прадстаўленая экспанатамі.

"Пры пазітыўным развязанні справы гэтыя прадметы можна будзе пабачыць як на часовых юбілейных выставах, так і ў сталай экспазіцыі фондаў, якая размесціцца ў новым будынку Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь", – запэўніваюць яго супрацоўнікі.

**Алег Груздзіловіч, svaboda.org**

навіны

# ГОДНЫ ФІНАЛ 150-ГАДОВАЙ ТРАГЕДЫІ. ЯК У ВІЛЬНІ РАЗВІТАЛІСЯ З КАЛІНОЎСКІМ І ЯГО ПАПЛЕЧНІКАМІ

Развітанне з Кастусём Каліноўскім і яшчэ 19 паўстанцамі, арганізаванае ўладамі Літвы, атрымала найвышэйшыя ацэнкі тысяч прысутных на ўрачыстасці. Свіст і крыкі "ганьба" за ўвесь час цырымоніі чуліся на Кафедральным пляцы ў Вільні толькі аднойчы – у момант выступу афіцыйнага прадстаўніка Беларусі.



У Вільні завяршылася дзяржаўная цырымонія перапахавання паўстанцаў 1863–64 гадоў, чые парэшткі знайшлі на гары Гедзіміна, калі там сышоў апоўзень.

## Пад сцягам паўстанцаў

У 8.30 салдаты ротаў ганаровай варты Арміі Літвы і Войска Польскага вынеслі два дзясяткі невялікіх драўляных трун з унутранага двара Палаца валадароў Вялікага Княства Літоўскага. Міністэрства абароны Беларусі ідэю далучыцца да ўрачыстасці праігнаравала.

Дзве першыя труны накрытыя чырвоным штандарам з паўстанцкім гербам – літоўскай "Пагоняй", польскім арлом і нябесным заступнікам арханёлам Міхаілам. У іх тое, што засталося ад камандзіраў – Кастуся Каліноўскага і Зыгмунта Серакоўскага.

Парэшткі ўсіх удзельнікаў народных выступаў супраць расейскага царызму даставілі ў Кафедральны сабор-базіліку Святых Станіслава і Уладыслава.

На плошчы тым часам сабраліся сотні ахвотных стаць сведкамі гістарычнай падзеі. Найбольш, як выглядала, было беларусаў, якіх лёгка было пазнаць па бел-чырвона-белых сцягах, партрэтах Каліноўскага і саматробных плакатах з ягонымі цытатамі. З прыбыццём на вакзал кожнага новага цягніка ці аўтобуса людзей прыбывала, і ўрэшце беларусы, на вока, склалі 2/3 ад усіх прысутных.

Некаторыя прызнаваліся, што ніводнага разу не былі ў Вільні, але не маглі прапусціць такую падзею ў гістарычнай сталіцы. Арганізавана дабраліся выкладчыкі і навучэнцы падпольнага Беларускага гуманітарнага ліцэю – адразу паўсотні чалавек.

Да неабыякавых людзей далучыліся палітыкі, грамадскія і культурныя дзеячы: Станіслаў Шушкевіч, персанальна запрошаны як першы кіраўнік незалежнай Беларусі, а таксама Мікола Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Лявон Баршчэўскі, Павал Севярынец, Вячаслаў Сіўчык, Аляксей Янукевіч, Аляксей Марачкін, Генадзь Драздоў, Уладзімер Някляеў, Валер Мазынскі, Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская, Іосіф Сярэдзіч, Павал Жук, Гэнік Лойка, Зміцер Дашкевіч, Павал Белавус, Эдуард Пальчыс ды многія іншыя.

Адмыслова прыехалі ў Вільню кіраўнікі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на чале з Івонкай Сурвіллай.

## Казус віцэ-прэм'ера

На развітанне ў саборы адвялі дзве гадзіны. Пасля прыбыцця афіцыйных асоб і кіраўнікоў замежных дэлегацый доступ у храм прыпынілі. Але за тым, што адбываецца ўнутры, можна было назіраць на вялікіх экранах.

Літва і Польшча былі прадстаўленыя на найвышэйшым узроўні – прэзідэнтамі Гітанасам Наўседам і Анджэем Дудам. У ганаровым шэрагу і былыя літоўскія кіраўнікі – Вітаўтас Ландсбэргіс, Валдас Адамкус, Даля Грыбаўскайце. Беларусь, Украіна і Латвія абмежаваліся чыноўнікамі менш высокага рангу.

Святую імшу на трох мовах (літоўскай, беларускай і польскай) служылі арцыбіскуп-мітрапаліт Гінтарас Грушас і біскупы ды вайсковыя капеланы з Літвы, Польшчы і Беларусі. У прыватнасці, слова пра Кастуся Каліноўскага прамаўляў каталіцкі арцыбіскуп мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч. "Нішто так не аб'ядноўвае, як пралітая за агульныя ідэалы кроў", – казаў ён ледзь стрымліваючы слёзы.

Тым часам да сярэдзіны дня на Кафедральнай плошчы заўважна пабольшала літоўскіх, польскіх, украінскіх палотнішчаў. Прадстаўнікі гэтых краін воплескамі рэагавалі на выступы сваіх лідараў, трансляваныя на экраны – тыя адзначалі неацэнны ўнёсак удзельнікаў вызвольнага руху, які праз паўтара стагоддзя прывёў да дэмакратычных працэсаў ва Усходняй Еўропе.

А вось з беларускім прамоўцам – у Вільню камандзіравалі чыноўніка з канца першай дзясяткі, віцэ-прэм'ера Ігара Петрышэнку – здарыўся казус. Паводле ягоных слоў, асоба Каліноўскага "не павінна выкарыстоўвацца ў палітычных мэтах", натоўп на плошчы незадаволена загудзеў, пачуўся свіст і крыкі "Ганьба!".

Пазней карэспандэнты "Свабоды" спрабавалі запыніць чыноўніка на могілках Росы, каб пацікавіцца ягонымі ўражаннямі ад цырымоніі перазахавання. Але Петрышэнка размаўляць з журналістамі адмовіўся.

## Апошні спачын на Росах

І вось настаў час для жалобнай працэсіі. На тэрыторыі зноў з'явіліся людзі ў парадных мундзірах, на дарозе выстраіўся ганаровы эскорт: лафет, прычэплены да вайсковага пазадарожніка, і дзясятак катафалкаў. На першым – дзве труны з парэшткамі Каліноўскага і Серакоўскага, накрытыя сцягам паўстанцаў. Параддзе рушылі барабаншчыкі і святары. За імі – вышэйшыя асобы і ўдзельнікі афіцыйных дэлегацый.



Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла з намеснікамі Міколам Пачкаевым і Сяргеем Навумчыкам.

У чорных легкавіках – астатнія паўстанцы. Следам стала доўгая калона пад нацыянальнымі сімваламі сваіх краін. Працэсія рушыла на могілкі Росы. Непрацяглы прыпынак быў зроблены каля Вострай Брамы: вернікі памаліліся за душы забітых герояў, першыя асобы параселі ў свае аўтамабілі і чакалі ўжо на месцы пахавання. Калона расцягнулася больш як на кіламетр.

Пасля развітальных прамоў труны ўклалі ў адмысловыя нішы, абсталяваныя ў капліцы-некропалі на Росах. Сцяг з труны Зыгмунта Серакоўскага атрымаў у памяць пра падзею Анджэй Дуда, з імем Каліноўскага – Гітанас Наўседа.

З усіх відаў зброі прагрымеў памятны салют у гонар кіраўнікоў і ўдзельнікаў паўстання – усіх, хто змагаўся і загінуў за свабоду свайго краю.

Ад вечара 22 лістапада пантэон герояў адкрыты для грамадскага наведвання.

**Паводле Ігара Карнея, svaboda.org**





# МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ІМПРЭЗА Ў ГОНАР ПАЎСТАНЦАЎ У НЬЮ-ЁРКУ

З нагоды пахавання герояў паўстання 1863-64 гадоў у Вільні 24 лістапада ў Нью-Ёрку прайшлі жалобныя мерапрыемствы.

У Саборы Святога Кірылы Тураўскага адбылася паніхіда, а потым у грамадскай залі сабора прайшла мемарыяльная імпрэза ў гонар паўстанцаў, на якой сабраліся неабыякавыя беларусы. Кожны ахвочы змог прачытаць вершы ці сказаць цёплыя словы, прысвечаныя героям паўстання.

На мерапрыемстве выступіў гісторык і публіцыст Янка Запруднік, адзін з самых актыўных дзеячоў беларускай дыяспары ў ЗША, Ганна Сурмач, бард Сяржук Сокалаў-Воюш і іншыя.

**novychas.by**

# ПАМЯТАЕМ І ГАНАРЫМСЯ!

Па-ранейшаму не сціхаюць спрэчкі і дыскусіі ў СМІ і ў сацсетках наконт перазахавання парэшткаў Беларускага, нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Як мы бачым, рашэнне было прынята зрабіць гэта ў Вільні.

На поўдні Флорыды беларусы актыўна абмяркоўваюць гэтую па-сапраўднаму важную гістарычную падзею.

Актыў Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА) Паўднёвай Фларыды сабраўся на адкрытую сустрэчу-дыспут.

Удзельнікі сустрэчы падзяліліся сваімі думкамі, меркаваннямі і рознымі каментарыямі са СМІ. Сустрэча прайшла цікава і дынамічна.

Быў прыведзены шэраг параўнанняў са старых (савецкіх) падручнікаў з сучасным поглядам сённяшніх гісторыкаў.

Асаблівая ўвага была накіравана на кнігу надрукаваную ў 2018 годзе Сямёнам Георгіевічам Шарэцкім пад назвай “Яны знайшлі свой спакой на пагосце”.

Была зачытана частка з гэтай кнігі, якая цалкам прысвечаная нашаму герою – Кастусю Каліноўскаму.

Цікавасць выклікалі некаторыя біяграфічныя звесткі, пачутыя ўпершыню, а таксама некаторыя падзеі тых гадоў, якія выклікалі буйнае народнае паўстанне супраць дэспатыі царскага рэжыму. Паводле агульных меркаванняў усіх удзельнікаў сустрэчы, роля Кастуся Каліноўскага вялікая ў нашай гісторыі, якую немагчыма пераацаніць.

Выяўленне парэшткаў нацыянальнага героя ў яго Дзень нараджэння вельмі сімвалічна.

Ён зноў да нас звяртаецца ў поўны рост, тварам да твару. Як быццам голас з таго свету, ён заклікае нас да праўды, ён заклікае нас да смеласці, ён заклікае нас да згуртаванасці. Немагчыма перамагчы таго, хто не здаецца.



Змагаючыся за дэмакратычныя прынцыпы, ён бясстрашна ўзышоў на эшафот.

Яго справа жыве і цяпер. Праз стагоддзі будучыя пакаленні будуць памятаць яго смеласць, патрыятызм і любоў да народа!

Любім і верым!

Памятаем і ганарымся!

**Аддзел БАЗА (Паўднёвая Флорыда)**

гутарка

# Мікалай Пачкаеў: ТОЛЬКІ ДАВАЙЦЕ, КАЛІ

Працяг са старонкі 1.



Мікалай Пачкаеў на сядзібе Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"

Агулам, у беларусаў Англіі ёсць чатыры арганізацыі, якія складаюць умоўную градацыю і звязаныя ў сетку, у якой не згубіцца чалавек з любым узроўнем нацыянальнай свядомасці. Гэтак, ЗБВБ ладзіць розныя сустрэчы з грамадскімі і культурніцкімі дзеячамі, журналістамі, арганізуе адзначэнне нацыянальных святаў – Слуцкі збройны чын, 25 сакавіка… Далей, у 1956 годзе ЗБВБ дапамагло арганізаваць Англа-Беларускае Таварыства. Яно працуе на ангельскай мове, прыцягвае ангельцаў, якія цікавяцца Беларуссю, а таксама змяшаныя беларуска-ангельскія сем'і. Займаецца яно чыста культурніцкімі імпрэзамі – Купалле, Батлейка… Беларуская Царква ў паўночным Лондане забяспечвае беларускае рэлігійнае жыццё. І ёсць яшчэ суполка ПАББ – Прафесійнае аб'яднанне беларусаў Брытаніі. Чальцы суполкі, апраўдваючы назву, сапраўды сустракаюцца ў пабе і, да таго ж, не маюць нейкага афармленага сяброўства. Усе гэтыя людзі – прафесіяналы, і падчас сустрэчаў ладзяць прэзентацыі пра сваю працу. Не так даўно, да прыкладу, беларус, які працуе ў British Petroleum, прачытаў лекцыю, падчас якой правёў аналіз бягучага стану нафтавага рынку і даў прагноз для тых, хто ў гэтай справе зусім не разбіраецца. Мова дакладчыкаў ПАБ-Бу бывае часам і беларуская, але пераважна ўсё ж руская і англійская. Карацей, любы беларус у Брытаніі можа знайсці сваю нішу, каб стасавацца з землякамі.

**– А ці маюць беларусы, якія абіраюць для жыцця Вялікабрытанію, нейкую адметнасць у параўнанні з нашымі эмігрантамі ў іншых краінах? Мне заўжды здавалася, хаця можа, і памылкова, што ўмоўны "парог уваходжання" ў брытанскае жыццё трохі вышэйшы за ўсходнееўрапейскі. І ці выпадае казаць пра нейкія эміграцыйныя хвалі, накшталт паваеннай ды іншых?**

– Мушу сказаць, што я не дасканала знаёмы з беларускай моладдзю ў Польшчы ці Літве. Але з маіх назіранняў тая беларуская моладзь, што прыязджае жыць у Вялікабрытанію, у сярэднім больш адукаваная і абазнаная ў рэаліях заходняга грамадства. Можна з упэўненасцю казаць, што яны ўяўляюць з сябе адбітак адукаванай часткі беларусаў. Але разам з гэтым і адсотак тых сярод іх, хто цікавіцца беларускім грамадскім жыццём, прыкладна такі самы, як і ў Беларусі – працэнтаў, можа, пяць. Найперш іх цікавіць прафесійнае жыццё, кар'ера. Гэтым яны гранічна адрозніваюцца ад тых, хто трапіў у Вялікабрытанію ў 1946 годзе. Тыя маладыя людзі мелі перадусім вельмі цвёрдыя ідэйныя перакананні, прайшлі вайну з розных бакоў і, пераехаўшы ў Брытанію, заклалі беларускую арганізацыю нават раней, чым уладкавалі асабісты побыт. Будынак, якім мы карыстаемся да гэтага часу, быў куплены ў іпатэку, якую ўзялі некалькі беларусаў – сярод іх Аляксандр Надсан і Вінцэнт Жук-Грышкевіч. І зрабілі яны гэта на дзесяць гадоў раней, чым пакуплялі сабе ўласныя хаты. Сёння такіх людзей мы, баюся, не знойдзем папросту нідзе. Тры кватэры плюс заля – гэта той матэрыяльны падмурак, які пакінулі нам заснавальнікі. Кватэры здаюцца ў арэнду, гэты прыбытак і ёсць тая крыніца фінансавання, якую мае ЗБВБ. Схема працуе аж з 1948 года. Атрыманыя грошы мы часткова выдаткоўваем на ўласную дзейнасць, а часткова – і, на жаль, чым далей, тым болей, – на рамонт будынка. Ён быў пабудаваны ў 1866 годзе, і нават па лонданскіх мерках ужо даволі стары. Рэшту мы маем магчымасць выдаткоўваць на невялікія гранты ў падтрымку беларускай дзейнасці, нейкія выданні – у Беларусі, Польшчы, Эстоніі.

**– Мне чамусьці здавалася, што нерухомасці ў беларусаў Брытаніі будзе паболей.**

– Я, здаецца, разумею, пра што вы гаворыце. Будынак Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане належыць ёй самой. Гэта аўтаномная арганізацыя, зарэгістраваная як дабрачынная. Апроч гэтага ёсць яшчэ Беларуская каталіцкая місія, якой зараз належаць два будынкі – а раней было тры, – і царква. У адным з будынкаў Місіі раней месцілася беларуская школка-інтэрнат…

**– Школка-інтэрнат? Аднак нішто сабе размах, скажу я вам!**

– Ну так, быў у нашай гісторыі такі цікавы эпізод, калі беларусы заўважылі, што іх дзеці не ведаюць роднай мовы. Дзяцей там выхоўвалі святары – біскуп Часлаў Сіповіч, айцы Аляксандр Надсан, Леў Гарошка, Язэп Германовіч, цэлая група выкладчыкаў. Ва ўсім, што тычылася беларускай мовы і культуры, дзеці мелі навучанне на месцы, а на астатнія прадметы была дамова з брытанскай агульнаадукацыйнай школай… Уладальнікам будынкаў Місіі зрэшты, з'яўляецца Каталіцкая Царква. Айцец Аляксандр Надсан, варта аддаць яму належнае, патраціў нямала часу і нерваў, каб усё гэта засталося ў беларускіх руках пры фактычнай адсутнасці беларускай паствы, асабліва ў 80-х гадах, калі паміралі ўсе святары, апроч яго. Цягам дзесяці гадоў, пакуль у 90-я зноў не прыехалі беларусы, ён аднаасобна "трымаў абарону", у той час як Ватыкан задаваў рэзонныя пытанні: навошта гэтая арганізацыя там існуе? А ўжо ў 90-я, калі ў беларусаў прынамсі з'явілася магчымасць падарожнічаць, айцец Надсан выдаткаваў пэўныя сродкі, якія былі ў Місіі, каб адукаваць групу новай беларускай рэлігійнай інтэлігенцыі. Сярод яго стыпендыятаў – Ірына Дубянецкая, Караліна Мацкевіч, якая цяпер працуе ў Скарынаўцы і сакратаркай ЗБВБ, айцец Ігар Лабацэвіч, які зараз працуе ў Злучаных Штатах, Сяргей Стасевіч – святар, які застаўся кіраваць Місіяй. Дзякуючы арганізацыйным здольнасцям і ўпартасці апошняга ўдалося рэалізаваць праект пабудовы новай драўлянай царквы.

**– Той самай, знакамітай, якая назбірала шмат архітэктурных прэмій?**

– У выніку – так, назбірала, хаця праект на пачатку не быў дужа вітаны царкоўнымі ўладамі. У Лондане шмат каталіцкіх будынкаў, пра якія можна сказаць, што яны пустуюць. Стаўце там іканастас, маўляў, ды служыце. Беларусы ж, у сваю чаргу, хацелі будаваць царкву як частку Беларускай каталіцкай місіі, апеку канкрэтна для беларусаў-каталікоў, бо ў іх ёсць свае асаблівасці царкоўнай культуры. Будынак, як бачыце, урэшце быў збудаваны.

**– І, падаецца, адразу зрабіўся сусветнай архітэктурнай славутасцю. Ці прыцягнула гэта ўвагу брытанцаў да беларускай грамады?**

– Думаю, што прыцягнула, і не толькі брытанцаў. Царква стала візітоўкай беларускай супольнасці. Так атрымалася, што ёсць безліч нагодаў яе згадваць – напрыклад, гэта першы грамадскі будынак з дрэва, які быў збудаваны ў Лондане пасля вялікага пажару ў 1666 годзе, таксама гэта адзіны будынак у Еўропе па-за межамі Беларусі, які будаваўся адмыслова як беларуская царква. Ёсць і нейкія спецыфічныя адметнасці, бо ён жа насамрэч канструктыўна вельмі сучасны: там і шкло, і сучасныя прыёмы выкарыстання дрэва ў архітэктуры. Да нас туды прыходзяць з экскурсіямі, калі ў Лондане адбываюцца дні архітэктурных цікавостак. Да ўсяго, аблічча будынка нясе на сабе выразны адбітак беларускай гістарычнай архітэктуры… Царква атрымала шмат узнагародаў як проста архітэктурны твор, але дзякуючы ёй паўсюль гучыць імя Беларусі. Рада БНР адзначыла медалём і айца Сяргея Стасевіча, і архітэктара Цзыўай Со менавіта таму, што гэты будынак паставіў Беларусь на культурную мапу Брытаніі і нават шырэй. Дзякуючы яму замежнікам стала крыху лягчэй успрымаць Беларусь не ў якасці механічна адрэзанага кавалка ад Савецкага Саюза, а як гістарычную Беларусь, з своеасаблівай нацыянальнай культурай, сваёй адметнай гісторыяй. Прамоцыя такога іміджу Беларусі вельмі задавольвае ЗБВБ. А яшчэ будынак беларускай царквы выкарыстоўваюць славакі ўсходняга абраду – яны таксама ўніяты, знаходзяцца прыкладна ў такім самым культурна-рэлігійным сваяцтве з беларускімі, як і ўкраінскія ўніяты.

**– То бок выходзіць, што такі нечаканы поспех паўплываў, да ўсяго, на адраджэнне рэлігійнага жыцця і ўмацаванне пазіцый Беларускай каталіцкай Місіі?**

– А вось што тычыцца Місіі, то сёння яна існуе больш у грамадскім уяўленні. Але незадоўга да смерці айца Надсана, калі той ужо не мог выконваць абавязкі яе рэктара, Ватыкан выдаў загад аб перадачы ўкраінскаму біскупу духоўнай апекі над беларусамі-каталікамі Вялікабрытаніі. Духоўным начальствам айца Сяргея Стасевіча, такім чынам, з'яўляецца ўкраінскі біскуп у Вяліка-

# ЛАСКА, БЕЗ "РОССОТРУДНИЧЕСТВА"

брытаніі. На маё прыватнае ўражанне, біскуп Глеб вельмі добразычліва ставіцца да беларусаў, хаця, вядома, лепей было б бачыць альтэрнатыву – высвячэнне беларускага ўніяцкага біскупа. Але на такі крок пасля смерці біскупа Сіповіча Ватыкан ніколі не вырашаўся, ні ў замежжы, ні ў самой Беларусі. Былі спробы арганізаваць нядзельныя школы для дзяцей пры царкве, пэўны час гэтым займалася Караліна Мацкевіч, але колькасць дзяцей цяпер непараўнальная з сітуацыяй 60-х гадоў, таму сёння гэта проста спатканні адукацыйнага характару.

**– Сімвалічна, што і на самым пачатку сваёй гісторыі ЗБВБ таксама мела вельмі шчыльныя кантакты з Саюзам украінцаў Вялікабрытаніі.**

– Нават першы з'езд ЗБВБ адбываўся ў зале Украінскага цэнтру. Украінцаў заўсёды было шмат больш, чым беларусаў, украінская эміграцыя была моцная яшчэ пасля расійскіх рэвалюцыяў. А ў 40-х гадах, да ўсяго, шмат украінцаў прыбыло ў Брытанію ў складзе канадскага войска. Гэта былі вайскоўцы, афіцэры, перад якімі, зважаючы на пасады, былі адкрытыя любыя дзверы. Яны і стварылі падчас вайны Украінскі цэнтр. Тыя ўкраінцы, якія траплялі ў Брытанію пасля 1945 года, можна сказаць, прыходзілі на ўсё гатовае. З гэтага скарысталіся і беларусы, наладзілі з украінцамі шчыльныя сувязі. Апроч украінцаў, між іншага, добрыя адносіны былі таксама з адным гатункам расійскіх казакоў, якія былі настроеныя не толькі па-антысавецку, але і антыімперыялістычна, уважалі сябе за асобную ад расейцаў нацыю і вызнавалі правы ўсіх нацый, што ўваходзілі ў склад былой Расійскай Імперыі, на самавызначэнне.

**– А якія цяпер стасункі з украінцамі ды іншымі дыяспарамі?**

– Калі я толькі прыехаў, у 90-х гадах, арганізацыя была больш-менш у такім самым заняпадзе, як і беларуская. Калісьці ў Брытаніі яны мелі вялікую колькасць нацыянальнай інтэлігенцыі і вельмі актыўнае грамадскае жыццё. Мелі шмат вялікіх памяшканняў, банкетную залю. Але з натуральных прычынаў асобы са старой эміграцыі сыходзілі, а ў другім пакаленні, як і ў сітуацыі з беларусамі, цікаўнасць да нацыянальнага захоўвалі амаль выключна толькі дзеці з самых інтэлігентных і добра адукаваных сем'яў. Аднак такая сітуацыя радыкальна змянілася ў 2014 годзе. Як пачалася вайна, то украінцы сталі арганізоўваць у Лондане шматтысячныя дэманстрацыі, і на гэтай хвалі з'явілася палітычна свядомая група ўкраінскай моладзі, а жыццё ўкраінскай дыяспары атрымала другое дыханне. Мы цяпер запрашаем адзін аднога на розныя мерапрыемствы, мне вось не так даўно давялося быць на ўкраінскім прыёме ў Парламенце. Але сёння паміж беларусамі і ўкраінцамі ёсць прынцыповая розніца, куды большая, чым у 1946 годзе. Тады абодва народы жылі за мяжой і не мелі сваёй краіны. Цяпер жа ва Украіны ёсць нацыянальная дзяржава, і іх амбасада, асабліва пасля пачатку вайны, наладзіла моцныя кантакты і партнёрства з эмігранцкімі ўкраінскімі арганізацыямі. А ў нас сітуацыя зусім іншая. Украінцам, як я сам усё часцей заўважаю падчас размоваў з імі, цяжка зразумець, што мэты амбасады Рэспублікі Беларусь у Лондане і ЗБВБ мала перасякаюцца. Хаця тыя рэдкія выпадкі, калі такое ўсё ж здараецца, мы лічым вельмі каштоўнымі, і цалкам настроеныя выкарыстоўваць іх для агульнай карысці. Калі б перад замежнымі прадстаўніцтвамі Рэспублікі Беларусь ставілася задача прамоцыі беларускай культуры на Захадзе, то і ЗБВБ, якое мае сувязі ў тым ліку і ў акадэмічных заходніх асяродках, і Скарынаўка, і нават Каталіцкая місія з ахвотай бралі б у гэтым удзел. Замест гэтага мы бачым, што, напрыклад, выстава беларускага мастака ў Вялікабрытаніі арганізуецца з дапамогай "Россотрудничества". Пытаемся ў арганізатараў, чаму так, а нам адказваюць, што іх такім чынам скіравала беларуская амбасада. А на сайце "Россотрудничества" мы згадак пра сувязь мастака з Беларуссю наогул не знаходзім, што, у прынцыпе, не дзіўна, бо "Россотрудничество" робіць сваю работу для сябе, за грошы з Масквы. Выходзіць, што для беларускай амбасады працай працаваць з калегамі з Расіі – праз пэўную агульнасць культуры, мовы. Але ж мы працаваць з "Россотрудничеством" ніякім чынам не будзем.

**– А ці ёсць надзея, што да беларускіх уладаў ўдасца нейкім чынам дагрукацца, зрабіць штосьці, каб яны ўсвядомілі вашую гатоўнасць да актыўнага супрацоўніцтва з амбасадай, нейкім чынам выправіць бягучы стан рэчаў?**

– Выглядае, што ў нас розныя дзялянкі. Беларуская дзяржава, як нам падаецца, мае прыярытэты двух гатункаў. У адным выпадку гэта пэўнае эканамічнае заданне, якое кіраўнік дзяржавы заўсёды ставіць перад дыпламатамі. Тут лішне казаць, наколькі гэта дзіўна выглядае з пазіцыі Захаду, дзе продаж трактараў – інтарэс дырэктара кампаніі, якая іх выпускае, але ніяк не дзяржавы, нават у Савецкім Саюзе гэтую функцыю выконвалі "торпредствы"... Ну а галоўны прыярытэт беларускай дзяржавы за мяжой – гэта ўмацаванне аўтарытэта і паляпшэнне палітычнага іміджу пануючай улады. У сваю чаргу наш інтарэс – гэта рэпрэзентацыя і прасоўванне ў свеце вобразу такой Беларусі, якую мы бачым у ідэале: нацыянальную, незалежную. А цяперашняя ўлада, з нашага пункту гледжання, надта аўтарытарная. У 2010 годзе ЗБВБ нават прымала ўдзел у пікетаваннях амбасады на знак пратэсту супраць палітычных рэпрэсій, якія фактычна тады адбываліся, і пасля мы на працягу нейкага перыяду зусім не кантактавалі. Цяпер у нас з амбасадай адносіны роўныя, мы кантактуем і, калі маем нейкі прадмет да абмеркавання, то абмяркоўваем.

**– Вось жа з вашых слоў вынікае, што нейкая станоўчая дынаміка ў дачыненнях усё ж ёсць. А сам я, да прыкладу, нядаўна чуў пра нейкае пагадненне аб супрацы паміж Скарынаўкай і Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі…**

– Я думаю, што дачыненні паміж бібліятэкамі – не тое самае, што дачыненні з амбасадамі і Міністэрствам замежных спраў, і таму адносна апошняга даволі скептычна настроены. На працягу доўгага часу беларуская дзяржава не жадае, на мой погляд, даць свабоду ні гаспадарцы, ні грамадскаму жыццю. Я заўважыў, што ўсе ўстановы Рэспублікі Беларусь не схільныя да кантакту з недзяржаўнымі арганізацыямі любога кшталту. Нават у выпадку дачыненняў з буйнымі карпарацыямі аддаюць перавагу дзяржаўным. Выглядае на тое, што яны, можа, нават не зусім ведаюць, як мець справу з прыватнымі і недзяржаўнымі арганізацыямі, што ў іх няма ніякай канцэпцыі прыватна-дзяржаўнага партнёрства – адной з базавых рэчаў для Захаду.

**– То бок атрымліваецца, што афіцыйная Беларусь мае скажонае ўяўленне пра структуру сучаснай заходняй дзяржавы?**

– Беларусь – вельмі адзяржаўленая сістэма. І эканоміка ў яе адзяржаўленая, і чыноўніцтва бачыць свет такім чынам, мае памылковае ўяўленне, што і ва ўсім свеце так. Але якраз ва ўсім свеце ўсё зусім не так.

**– Пэўна ж, і грамадзяне таксама маюць памылковае ўяўленне?**

– Напэўна, і грамадзяне таксама… Нават беларусы, якія атрымліваюць дыпломы ў Кембрыджскім, Оксфардскім ці Лонданскім універсітэтах, часта здзіўляюцца, чаму не могуць атрымаць апастыль. А таму і не могуць, што ў Брытаніі апастыль ставіцца толькі на дакументы дзяржаўнай установы. А дзяржаўная ўстанова і ўстанова, якая фінансуецца дзяржавай, – гэта не тое самае. І праз усё пералічанае складаецца дзіўнае становішча, калі ЗБВБ, на вялікі жаль, значна працай дамовіцца пра нешта з нейкімі брытанскімі дзяржаўнымі інстытуцыямі, якія заўжды вельмі адкрытыя да кантактаў, а тады ўжо праз іх выходзіць на кантакт з беларускімі чыноўнікамі, з Міністэрствам замежных справаў, праз амбасаду Брытаніі ў Мінску. Беларуская брытанская арганізацыя мусіць кансультавацца з брытанскімі дыпламатамі аб тым, як бы нешта арганізаваць з беларускімі ўладамі!

**– А распавядзіце, калі ласка, пра якую-небудзь сумесную імпрэзу такога кшталту.**

– Мы арганізоўвалі разам з адной з інстытуцый Лонданскага ўніверсітэта міжнародную канферэнцыю, прысвечаную 100-годдзю БНР, на якой былі прадстаўнікі Беларусі, Літвы, Польшчы, Вялікабрытаніі. З Беларусі быў прафесар Снапкоўскі з факультэта міжнародных адносінаў БДУ. А вось калі мы святкавалі 100-годдзе БНР, то выступілі з ініцыятывай арганізаваць урачысты прыём у брытанскім Парламенце. Прымаючы брытанскі бок быў прадстаўлены ў асобе кіраўніка Брытанскай групы па Беларусі, а мы хацелі запрасіць групу беларускіх дэпутатаў, афіцыйна і за наш кошт. Гэтага не атрымалася. У выніку мы мелі ў якасці госці толькі Алену Анісім, якая, да таго ж, прыехала да нас не па дыпламатычнай, а па агульнаграмадзянскай візе. Усё гэта адбылося пасля шэрагу абмеркаванняў з прадстаўнікамі амбасады, прытым, хачу зазначыць, у вельмі прыязным ключы. Яны са свайго боку вельмі добра да падзеі паставіліся, дапамагалі Алене Анісім у гэтым візіце транспартам, а на самім прыёме быў іх прадстаўнік. Мы, у сваю чаргу, паставілі там трэці сцяг – афіцыйны сцяг Рэспублікі Беларусь – на знак таго, што праводзім не палітычную дэманстрацыю, а стоадсоткава ўрачысты святочны сход з фуршэтам. Але з боку амбасады, як мне падалося, асаблівай зацікаўленасці ў тым, каб падтрымаць ініцыятыву, не было, і якраз таму, што сыходзіла яна не ад урадавай, а ад недзяржаўнай арганізацыі. Нацыянальны Сход, як я зразумеў, паставіўся да прапановы прыкладна гэтаксама. Была бачная слабая гатоўнасць дзяржаўных установаў Беларусі да пэўных формаў партнёрства з недзяржаўнымі арганізацыямі.

**– Выходзіць, што сёння адзіная патрэба, якую беларусы Вялікабрытаніі маюць у дачыненнях з беларускай дзяржавай, гэта ўсяго толькі сімвалічны крок насустрач з боку апошняй?**

– У свеце беларуская дыяспара вельмі неаднародная, ёсць краіны, дзе беларусы патрабуюць падтрымкі, асабліва ў краінах былога Савецкага Саюза, такіх як Малдова, Расія… Я цалкам разумею, калі яны маюць больш плённыя кантакты з беларускім МЗС. Дыяспара ж у Брытаніі матэрыяльна цалкам незалежная. Наадварот, мы самі з'яўляемся донарамі грантаў для розных выдавецкіх праектаў у Беларусі і іншых краінах. Безумоўна, мы хочам бачыць удзел Амбасады і Міністэрства ў арганізацыі шчыльнейшага культурнага абмену, у арганізацыі прыезду беларускіх культурніцкіх дзеячоў. І сэнс гэтага абмену павінен быць у прэзентацыі Беларусі як самастойнай, нацыянальнай, абсалютна незалежнай дзяржаўнай адзінкі, нацыі. Зараз нагоды для кантактаў з амбасадай у нас няшмат, але ў тым аб'ёме супольных праектаў, якія адбываюцца, я не магу паскардзіцца, што амбасада неяк кепска ставіцца да нас ці пазбягае кантактаў. І ўжо тое добра, што зараз мы не бачым для супрацы нейкіх палітычных перашкодаў. Толькі давайце, калі ласка, без "Россотрудничества".

**Гутарыў Сяргей Кандрацэнка, прэс-сакратар МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**



| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Барщевскій | 45. | 28 Февраля | 54. | 1851 Года Февраля 28. дня въ М. Чуднове скончался Дворянинъ Іоаннъ Барщевскій отъ чахотки. Исповѣдывался и Св. Таинъ пріобщался. | Свободного состоянія мужъ имѣвшій отроду 54. лѣтъ Щудновской Церкви прихожанинъ. |
| | 46. | 1. | 6. | 1851 Года Марта | Однодворцевъ Ю- |

**навіны**

# ВА УКРАІНЕ ЗНАЙШЛІ НЕ ТОЛЬКІ НАДМАГІЛЬНУЮ ПЛІТУ ЯНА БАРШЧЭЎСКАГА, АЛЕ І ДАКУМЕНТЫ АБ СМЕРЦІ

У Дзяржаўным архіве Житомірскай вобласці знайшлі метрычныя дакументы аб смерці беларуска-польскага пісьменніка Яна Баршчэўскага ў мястэчку Чуднаў, дзе ён жыў апошнія гады свайго жыцця. Да гэтага дакладная даты жыцця пісьменніка былі невядомыя. Знойдзены дакумент дапаможа ўнесці яснасць.

У гэтых дакументах адзначаецца, што "дваранін Іаан Баршчэўскі" памёр ад сухотаў 28 лютага 1851 году ва ўзросце 54 гадоў.

Ён быў парафіянінам Чуднаўскага рымска-каталіцкага касцёла і, паколькі не меў сваёй сям'і, быў пахаваны вікарыем гэтага храма Адамам Пурышкам на чуднаўскіх парафіяльных публічных могілках. Звесткі знаходзяцца ў метрычнай кнізе Чуднаўскага рымска-каталіцкага парафіяльнага касцёла.

Гэтыя звесткі супярэчаць інфармацыі, змешчанай на знойдзеным сёлета ягоным надмагіллі – на ім папольску пазначана, што Ян Баршчэўскі, які "любіў Бога, прыроду і людзей, пісьменнік натхненняў і пачуцця, жыў годна 70 гадоў".

Дагэтуль невядома дакладная дата нараджэння Яна Баршчэўскага – у розных крыніцах называюцца як 1790-ы, так і 1794 год. Аднак, калі чуднаўскі вікарый не памыліўся з узростам, калі рабіў запіс аб смерці пісьменніка, то яшчэ адной імавернай датай нараджэння можа быць 1797 год.

## Лёс надмагілля пакуль нявырашаны

Надмагільную пліту сёлета ў красавіку знайшлі ў Чуднаве на падворку мясцовага жыхара Анатоля Прыходчанкі, а пазней передалі на захоўванне ў мясцовы рымска-каталіцкі касцёл Адшукання Крыжа Гасподняга. Планавалася пасля рэстаўрацыі ўсталяваць яе на тэрыторыі касцёла. Але цяпер надмагілле Яна Баршчэўскага перавезлі ў Житомір. "Пліта знаходзіцца ў Житомірскім абласным саюзе палякаў Украіны і з'яўляецца ўласнасцю гэтай арганізацыі", – паведаміла Свабодзе кіраўніца житомірскай польскай дыяспары Вікторыя Ляскоўская-Шчур.

Паводле яе, рэстаўрацыю яшчэ не пачыналі, бо спачатку знаходцы трэба прысвоіць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, а потым знайсці грошы на яе аднаўленне. "Дакументы на прысваенне статусу таксама яшчэ не падрыхтавалі", – дадала яна.

## Месца пахавання невядомае

Метрычны запіс, знойдзены ў Житомірскім архіве, таксама пацвярджае, што Ян Баршчэўскі быў пахаваны на іншых могілках у Чуднаве, а не на тэрыторыі дзейнага рымска-каталіцкага касцёла, куды спачатку передалі надмагілле.

Як паведаміў Свабодзе айцец Мірон Шалавінскі (ён у красавіку ачольваў рымска-каталіцкі прыход у Чуднаве, а цяпер пераведзены ў Крым), архіўныя дакументы пацвярджаюць, што пісьменнік быў пахаваны на могілках іншага касцёла, які зруйнаваны савецкай уладай у 1935–1936 гадах і знаходзіўся паблізу падворку, дзе і знайшлі надмагільную пліту.

**Алена Літвінава, svaboda.org**



## ПАМЕРЛА ПЕРАКЛАДЧЫЦА ГАЛІНА МІТРАХОВІЧ

Пра гэта паведаміў у сваім фэйсбуку Сяргей Макарэвіч.

"20 лістапада не стала перакладчыцы Галіны Мітраховіч (1948–2019). Яна даўно жыла ў Партугаліі, а хацела пакінуць след і ў беларускай культуры.

Два гады таму Галіна напісала мне: "Я згодная на "маруднае" супрацоўніцтва і спадзяюся, што дажыву". Гаворка вялася пра пераклад рамана "Пячора" нобелеўскага лаўрэата Жазэ Сарамагу. У кастрычніку кніга выйшла ў выдавецтве "Янушкевіч". Галіна паспела патрымаць яе ў руках. На жаль, больш мы з ёй не падрыхтуем ні аднаго перакладу. Светлая памяць!"

**NN.by**

## Беларускі каляндар памятных дат на снежань 2019 года

**1 снежня**
- 100 гадоў таму, у 1919-м, памёр Вандалін Шукевіч, археолаг, этнограф.

**6 снежня**
- 100 гадоў таму, у 1919-м, забіты Аляксандр Булатовіч, дыпламат.

**7 снежня**
- 195 гадоў таму, у 1824-м, нарадзіўся Юльян Бакшанскі, камандзір паўстанцкага атрада ў 1863 г. Загінуў у 1863 г.

**8 снежня**
- 105 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Часлаў Сіповіч, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі. Памёр у 1981 г.
- 50 гадоў таму, у 1969-м, памерла Ванда Лявіцкая (Лёсік), пісьменніца.

**9 снежня**
- 45 гадоў таму, у 1974-м, памерла Юлія Бібіла, бібліёграф, майстрыха мастацкага ткацтва.

**11 снежня**
- 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Кастусь Шышэя (псеўд. Арол), дзеяч вызваленчага руху.

**12 снежня**
- 205 гадоў таму, у 1814-м, нарадзіўся Адам Завадскі, выдавец. Памёр у 1875 г.

**15 снежня**
- 25 гадоў таму, у 1994-м, памёр Уладзімір Калеснік, празаік.

**16 снежня**
- 220 гадоў таму, у 1799-м, нарадзіўся Ян Баршчэўскі, пісьменнік.

**17 снежня**
- 170 гадоў таму, у 1849-м, нарадзіўся Зыгмунт Пуслоўскі, мецэнат. Памёр у 1913 г.
- 130 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Даніла Васілеўскі, гісторык. Памёр у 1963 г.

**18 снежня**
- 85 гадоў таму, у 1934-м, памёр Альбін Стаповіч, кампазітар.

**20 снежня**
- 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Васіль Мядзелец, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху.

**21 снежня**
- 50 гадоў таму, у 1969-м, памёр Аляксей Шудзейка, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.
155 гадоў таму, у 1864-м, памёр Міхаіл Балінскі, гісторык.

**24 снежня**
- 235 гадоў таму, у 1784-м, нарадзіўся Зарыян Далэнга-Хадакоўскі, славяназнавец.
- 115 гадоў таму, у 1904-м, нарадзіўся Алесь Дудар (сапр. Аляксандр Дайлідовіч), паэт. Забіты ў 1937 г.

**25 снежня**
- Каляды (Божае Нараджэнне) паводле грыгарыянскага календара
- 175 гадоў таму, у 1844-м, памёр Адам Храптовіч, удзельнік паўстання 1794 г.
- 100 гадоў таму, у 1919-м, нарадзіўся Кастусь Мяряк, дзеяч эміграцыі ў Аргенціне і ЗША. Памёр у 2007 г.

**27 снежня**
- 95 гадоў таму, у 1924-м, памёр Леў Бакст (Розенберг), мастак.

**28 снежня**
- 75 гадоў таму, у 1944-м, памёр Сцяпан Журык, заолаг.

**29 снежня**
- 135 гадоў таму, у 1884-м, памёр Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, паэт, драматург.

**Беларусы ў свеце**
№ 11 (210), лістапад 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 370-10-12